
Скаўты ў Бягомлі

Фота кс. В. Місевіча

Выдавец: ПП «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

45 (553) 11 лістапада 2010 года. Кошт свабодны

## Äçåíü çà äí¸ì

**Для пакрыцця дэфіцыту валюты ўрад Беларусі вырашыў зноў да канца года выпусціць еўрааблігацыі яшчэ на 1 млрд. $ за кошт новых нявыгадных займаў за мяжой. Услед за страшным ўзрывам у Пінску, дзе загінулі і трапілі ў рэанімацыю дзясяткі людзей, адбыліся пажары на "Мінскдрэве", на барысаўскім заводзе "Аўтагідраўзмацняльнік". Прычыны трагедый: састарэлае абсталяванне яшчэ савецкіх часоў, ад якога патрабуюць пастаянны рост каманднымі метадамі кіравання эканомікай.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Бельгія.** На сустрэчы ў Брусэлі лідары краін Еўрасаюза дамовіліся аб унясенні паправак, накіраваных на сумеснае пераадоленне будучых фінансавых крызісаў, у Лісабонскі дагавор.

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў перадаў у Брусель праект пагаднення «Аб асновах новых узаемаадносін Расіі і НАТА", расійскія радары могуць уключыцца у сістэму ПРО Еўропы.

**Мексіка.** Краіну ўзрушыла жорсткае забойства ў рэабілітацыйным цэнтры для наркаманаў горада Ціхуана 13 пацыентаў, якіх ночччу цынічна расстраляла адна з банд наркакартэляў.

**Францыя.** Шматлюдныя акцыі пратэсту не далі выніку, непапулярная ў народзе пенсійная рэформа павышэння пенсійнага ўзросту да 62 гадоў пачне дзейнічаць.

**Бразілія.** Упершыню ў гісторыі краіны першым прэзідэнтам-жанчынай стала Дзілма Русеф, кандыдат ад Працоўнай партыі, яна была двойчы замужам і разведзена.

**Самалі.** З-за прысутнасці ваенных караблёў значна знізілася колькасць нападзенняў мясцовых піратаў, але ў водах суседняй Кеніі яны захапілі ў палон яшчэ 25 суднаў.

**Казахстан.** Пажылому "лідару нацыі" Н. Назарбаеву прапанавалі працягнуць ягоныя прэзідэнцкія паўнамоцтвы яшчэ да 2020 года, ён нязменна кіруе краінай з савецкага часу.

**Англія.** Урад краіны вырашыў скараціць бюджэтныя расходы на армію на 8 % на працягу 4-х гадоў, на 3 млрд. еўра штогод, будуць звольнены 8 тысяч брытанцаў-ваеннаслужачых.

**Польшча.** Прадстаўнік польскага МЗС Я. Дзедзіц пацвердзіў, што краіна падчас свайго старшынства у ЕС яшчэ больш актывізуе праграму "Усходняе партнёрства" і для Беларусі.

**Украіна.** Краіне ўдалося дамовіцца з Расіяй аб зніжэнні цаны на газ з цяперашніх 252 USD да 230-235 долараў у першым квартале 2011 года, пра гэта дамовіліся іх прэм'еры ў Кіеве.

**ЗША.** Клінічныя выпрабаванні новай вакцыны амерыканскіх вучоных супраць раку далі добры вынік, лякарства рэзка тармозіць далейшы рост пухліны і падаўжае жыццё хворых.

**Інданезія.** Каля паўтысячы склала колькасць загінуўшых у выніку моцнага цунамі пасля землятрусу і выкіду смертаноснай лавы з вулкана Мерапі.

**Швейцарыя.** Вучоныя краіны пацвердзілі, што за апошнія 10 гадоў па ўзроўні дабрабыту ў свеце найбольш багацелі жыхары Расіі, іх даходы з 2000 года выраслі ў 5 разоў.

**Германія.** Буйнейшыя фірмы краіны сталі блакіраваць сваім супрацоўнікам доступ да сацыяльных сетак Інтэрнета з-за апасенняў выкарыстання іх для прамысловага шпіянажу.

**Расія.** Як і летась, расіяне будуць адпачываць у пачатку 2011 года на працягу 10 дзён, з 1-га па 10 студзеня на працяглых навагодніх і калядных канікулах, у РФ–18 дзён святаў.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Як і планавалася, швейцарская кампанія "Франк Мюллер" выкупіла 52 % акцый аднаго з айчынных брэндаў "Гадзіннікавы завод "Прамень", пачнецца яго тэхпераўзбраенне.

**Гродна.** Вобласць захавала лідарства ў РБ па колькасці доўгажыхароў, узрост 100 гадоў і болей тут пераадолелі восень156 чалавек, усяго доўгажыхароў у краіне – 665.

**Брэст.** А. Лукашэнка падчас візіту пацвердзіў, што і ў далейшым у Беларусі прадоўжыцца актыўнае будаўніцтва Лядовых палацаў і іншых новых спартыўных збудаванняў.

**Мінск.** З 2011 года мінімум на 9 %, як папярэдзіў намеснік міністра ЖКГ М. Ліпень, у Беларусі павялічыцца квартплата, падаражэюць тарыфы на камунальныя паслугі.

**Маладзечна.** Хуткімі тэмпамі пачалі тут узводзіць спартыўна-забаўляльны цэнтр з Лядовым палацам, які трэба здаць да пачатку чарговага фестываля "Дажынкі - 2011".

**Мінск.** Маральна падтрымаць лідара РБ прыехаў толькі лідар КПРФ Г. Зюганаў, аднак расійскія камуністы ў Дзярждуме даўно ў ягнай меншасці і ні на што не ўплываюць.

**Бяроза.** Штодзень ва ўсе абменнікі горада банкі адпраўляюць па 5 тысяч долараў, але насельніцтва раскупляе валюту на працягу 1-2 гадзін, ажыятаж паўсюдна на Брэстчыне.

**Лагойск.** Кітайская кампанія CNTIC згодна прапрацыі сюды з Мінска скарасную трамвайную лінію, якая звяжа сталіцу з гарналыжнымі комплексамі "Сілічы" і "Лагойск".

**Лельчыцы.** Шырокі рэзананс у райцэнтры выклікаў арышт прадпрымальніка, былога баксёра, і двух яго памочнікаў, якія працоўную дысцыпліну ўмацоўвалі ...біццём людзей.

**Мінск.** Толькі на адным сеансе на кінафестывалі "Лістапад" пакажуць у Беларусі прэм'еру новага расійска-беларускага блокбастара, фільм "Брэсцкая крэпасць", яго паказ ідзе ў РФ.

**Слонім.** Праз 15 гадоў працы ў райцэнтры адрадзіўся ўзарваны камуністамі ў 1957 годзе велічны Свята-Праабражэнскі праваслаўны сабор на 5 тысяч месц для прыхаджан.

**Брэст.** У горадзе здалі ў эксплуатацыю сучасны Палац водных відаў спорту з 4-ма басейнамі і абласным дыспансерам спартыўнай медыцыны, ён адпавядае гостам FINA.

**Гродна.** Паблізу Аўгустоўскага канала ўрачыста перазахавалі астанкі 275 загінуўшых рускіх воінаў 10-й арміі часоў І-й сусветнай вайны, з'явіўся на магілках і памятны знак.

**Мінск.** Як і чакалася, тэрмін дамашняга арышту ст. следчага Генпракуратуры РБ па асабліва важных справах С. Байковай прадоўжылі, у кватэры дзяжураць 2 афіцэры КДБ.

**Валожын.** Адзін з першых у глыбінцы сучасных супермаркетаў са шкла і бетону адкрыўся ў пасёлку Ракаў на месцы былога сельмага, што адразу ўпрыгожыла гэта мястэчка.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** За 2 гады ў вобласці пабудавалі 21 сучасную ферму, на іх пайшло 470 млрд. рублёў, аднак акупацца яны будуць дзесяцігоддзі: у калгасах нізкія надоі малака.

**Віцебск.** Аб'яднанне "Віцебскаблдарбуд" з 2600 працоўнымі ў 25 філіялах яшчэ ў верасні выйшла на сярэдні заробак – 502 USD, палову аб'ёмаў працы склалі пабочныя заказы.

**Наваполацк.** На аб'яднанні "Нафтан" завяршаюць мантаж новай устаноўкі "Пенекс", якая дазволіць выпускаць высакаякасны бензін вышэйшага міжнароднага класа "Еўра-5".

**Дуброўна.** Побач з чыгункай ля вёскі Раленкі выпадкова знайшлі смертаносны арсенал з 50 снарадаў і мін, 2 гранат часоў вайны. Сапёры боепрыпасы вывезлі і ўзарвалі.

**Полацк.** У вобласці горад стаў самым прамысловa паспяховым, у 12 мясцовых фірмах і прадпрыемствах 5 тыс. работнікаў (18,7 % занятых гараджан) маюць заробкі 450-500 $.

**Глыбокае.** Як і іншыя заводы галіны, мясцовы МКК сутыкнуўся з недахопам малака на перапрацоўку, яго трэба 550 тон у суткі, але першая партыя прадукцыі пайшла на Украіну.

**Орша.** Міліцыя каля мясакамбіната затрымала 27-гадовага несуна з 16 мяшкамі мяса вагой 640 кг. Раней ён працаваў на ім, але быў звольнены за дробныя крадзяжы прадукцыі.

**Сянно.** У Доме культуры гарпасёлка Багушэўск прайшла сустрэча з 137 маладымі спецыялістамі, прыехаўшымі сёлета на працу ў раён, скончылася яна ўвечары дыскатэкай.

**Талачын.** Суд пакараў штрафамі па 9 млн. рублёў кожнага двух злосных браканьераў-чыгуначнікаў, якія 7 сеткамі злавілі 275 карасёў, яны асуджаны на 3 гады з адтэрміноўкай.

**Полацк.** У рамках акцыі "Культурная сталіца" пачаўся XV міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі" з удзелам музыкантаў з Аўстрыі, Польшчы, іншых краін.

**Падсвілле.** На мясцовым філіяле Полацкага вінаробчага завода рыхтуюцца да пачатку разліва ў 2011 годзе віна палепшанай якасці ў новую экалагічную ўпакоўку тэтра-пак.

**Бешанковічы.** Сапраўдны скандал узнік у райцэнтры пасля спілавання старога дуба, які ўпадабаў Напалеон. Там пакінулі толькі яго 5-метровы ствол з абрэзкамі сукоў.

**Дуброўна.** Мясцовы дзяржпрафліцэй ўрачыста адзначыў сваё 65-годдзе, акрамя кадраў для АПК тут рыхтуюць яшчэ будаўнікоў, повараў і вадзіцеляў, іх выпусцілі 25 тысяч.

**Глыбокае.** З пачатку года ў раёне не было праведзена ніводнага зямельнага аўкцыёна, калі па вобласці сельсаветы правялі 73 і папоўнілі свае бюджэты на 813 млн. рублёў.

**Полацк.** Суд асудзіў на 4 гады і 9 месяцаў гараджанку, якая атрымала ад страхавой кампаніі 18 тысяч $, а папярэдне ўстроіла наўмысны падпал уласнай іншамаркі "Пежо".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**11** столькі ініцыятыўных груп, па дадзеных Цэнтрвыбаркама Беларусі, з раней зарэгістраваных 17, змаглі здаць для рэгістрацыі іх кандыдатаў у прэзідэнты неабходныя 100 тысяч подпісаў. Нават калі ўлічыць, што здадзеныя подпісы яшчэ не азначаюць, што яны сабраны правільна, па законе, усё роўна гэта крок наперад. У далёкім ужо 1994-м годзе такіх шчасліўшчыкаў было 7, а ў дзве наступныя прэзідэнцкія кампаніі 2001 і 2006 гадоў да рэгістрацыі дайшлі толькі па 4 прэтэндэнты.

Хоць і гаворыцца на вышэйшым узроўні пра канкурэнтаў беларускага лідара, што гэта "ушербные люди", але для яго нават лепш, калі будзе многа альтэрнатыўных кандыдатаў. У такой сітуацыі яны проста расцягнуць галасы пратэстнага электарату паміж сабой. Праўда, эксперты сталі цяпер гаварыць на чарговым этапе выбараў аб існуючай магчымасці вызначэння адзінага кандыдата ад апазіцыі. Тым больш, што такое ўжо было 9 гадоў назад, калі адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сіл стаў прафсаюзны лідар Уладзімір Ганчарык.

Пакуль жа на восеньскім фоне палітычнага зацішша ў буйных гарадах пайшлі ў масы зборшчыкі подпісаў, з'явіліся пікеты на вуліцах і ў бойкіх месцах. У выніку кіраўнік дзяржавы прызнаўся, што нават не ведаў, колькі сабрана за яго галасоў, меркаваў, што дзесьці 1 млн. 300 тысяч. Як стала вядома, ініцыятыўная група безумоўнага лідара гонкі А. Лукашэнкі скончыла збор подпісаў яшчэ 22 кастрычніка і перадала ў камісіі іх 1. 113. 014. Услед за ім у "прызавой тройцы" аказаліся лідар кампаніі "Гавары праўду" У. Някляеў ( 161. 824), экс-намеснік міністра замежных спраў Беларусі А. Саннікаў (150. 168) і эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Я. Раманчук (128. 699).

У выніку неўзабаве мы можам атрымаць найбольшую дагэтуль у Беларусі колькасць кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах. Але пакуль раённыя камісіі на працягу 10 дзён будуць правяраць даставернасць сабраных подпісаў (падлягае праверцы 20 % прадстаўленых аўтографаў) і толькі 13 лістапада на падставе пратаколаў тэрытарыяльных камісій ЦВК вызначыць колькасць далейшых удзельнікаў выбараў. У любым выпадку гэтыя выбары, хоць канчатковы вынік прагназуецца ў раёне 70-75 % галасоў для дзеючага кіраўніка краіны, на папярэднія падобныя не будуць.

Як ні круці, але адзін і той жа твар і голас на працягу стольких гадоў, адсутнасць навізны, станоўчых перамен і ўпарты курс у адным накірунку не дадаюць многім беларусам аптымізму. Народ інтуіцыяй адчувае, што пасля галасавання 19 снежня прыйдзецца ў новым годзе большасці з нас наогул зацягнуць паясы, бо на нас цяпер ціснуць як на Захадзе, так і на Усходзе. Можна колькі заўгодна гаварыць на БТ аб устойлівым росце нацыянальнай эканомікі, але ж народ па-ранейшаму жыве небагата ў параўнанні з суседзямі. Сёлета насельніцтва і прадпрыемствы штомесяц скупляюць у банках на сотні млн. долараў болей, чым прадаюць.

Рост цэн у нас пакуль удавалася стрымліваць, але ж друкарскі станок уключаны на поўную магутнасць. Грашовая маса, не падмацаваная ростам вытворчасці, па ацэнках эканамістаў, стварыла такі патэнцыял інфляцыі, што патэнцыйны рост цэн можа дасягнуць 25-30 %. Сальда айчыннага знешняга гандлю стабільна адмоўнае, а замежныя крэдыты дагэтуль болей праядаліся. Аб такіх тэндэнцыях суайчыннікі, магчыма, даведаюцца хутка, калі будуць арганізаваны тэлеі радыёдэбаты кандыдатаў у прэзідэнты.

Зразумела, паўплываць на канчатковы выбар большасці выбаршчыкаў яны не змогуць.

Аднак відавочна, што перад краінай і яе кіраўніцтвам стаяць у далейшым яшчэ больш складаныя задачы і новыя выклікі. Напярэдадні выбараў чыноўнікі высокага рангу абяцаюць выпусціць Дырэктыву № 4 па лібералізацыі дробнага бізнесу і эканамічных свабод. Але столькі раней мы ўжо чулі такіх абяцанняў. Для палітыкаў асноўная функцыя – паабяцаць як мага болей і найбольш пераканаўча, а ўжо як іх выконваць – ды як атрымаецца. Як паказвае навейшая айчынная гісторыя, у асобных дзеячаў гэта выходзіць друга другое дзесяцігоддзе. А на чарзе цікавы этап выбараў – агітацыя тых, хто не вызначыўся.

## Нашы земляки

# Запатрабаваны і сёння

**Яўген Уладзіміравіч Уладзіміраў – кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, супрацоўнік НАН Беларусі з 53-гадовым стажам, які адпрацаваў у Аб'яднаным інстытуце праблем інфарматыкі з дня яго заснавання ў лютым 1965 года, адзначыў сваё 80-годдзе.**

Я.Уладзіміраў нарадзіўся 3 кастрычніка 1930 года ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. Жыццёвы шлях выхадца з Заходняй Беларусі, які спазнаў розныя сістэмы школьнай адукацыі, перажыў падлеткам у раённым горадзе страшныя гады нямецка-фашысцкай акупацыі, склаўся няпроста.

У 1948 годзе ён паступіў на механічны факультэт БПІ, дэканам якога ў той перыяд быў будучы заснавальнік і першы дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР Г. Гаранскі. Я.Уладзіміраў імкнуўся быць старанным вучнем гэтага неардынарнага, моцнага чалавека, буйнога навукоўцы і арганізатара навуковай школы ў галіне аўтаматызаванага праектавання тэхнічных аб'ектаў.

Г. Гаранскі стаў падбіраць найбольш здольных, дзелавітых і тых выпускнікоў БПІ, якія выявілісябенавытворчасці. У 1957 годзе ён запрасіў Я.Уладзімірава галоўным інжынерам лабараторыі ў зноў створаны Інстытут машыназнаўства і аўтаматызацыі АН БССР (ІМА АН БССР).

Яўген Уладзіміравіч імкнуўся дапамагчы Георгію Канстанцінавічу ў станаўленні новага НДІ. Тут ён атрымаў першыя навуковыя вынікі. Выступіў з дакладам «Аналіз прадукцыйнасці агрэгатных станкоў» па матэрыялах абследаванняў на Падольскім механічным заводзе і аўтазаводзе імя Ліхачова на канферэнцыі ў сакавіку 1960 г. (гэта першая навуковая праца Яўгена Уладзіміравіча). У тым жа годзе выйшла сумесная з Е.Дняпроўскім манаграфія «Актыўны і аўтаматычны контроль дэталяў».

У студзені 1962 г. Яўген Уладзіміравіч пераведзены на пасаду навуковага сакратара інстытута. Але праз 9 месяцаў з-за таго, што яго старэйшы брат падчас вайны стаўся адарваным ад родных месцаў і апынуўся за мяжой, Яўген Уладзіміравіч быў звольнены з інстытута. Аднак праз два месяцы аддзел кадраў АН БССР адмяніў гэты загад і перавёў Яўгена Уладзіміравіча ў Фізіка-тэхнічны інстытут на пасаду галоўнага інжынера лабараторыі новых метадаў апрацоўкі металаў.



**Яўген Уладзіміравіч Уладзіміраў - кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, супрацоўнік НАН Беларусі.**

Каб працягнуць плённа пачатую справу і супрацоўніцтва з Г. Гаранскім, Яўген Уладзіміравіч у кастрычніку 1963 г. перавёўся ў Інстытут матэматыкі і вылічальнай тэхнікі АН БССР на пасаду галоўнага інжынера лабараторыі аўтаматызацыі інжынернай і кіраўнічай працы, якой кіраваў яго навуковы настаўнік.

У 1967 годзе Я. Уладзіміраў па конкурсе быў абраны на пасаду старэйшага навуковага супрацоўніка, а ў 1969 г. быў прызначаны загадчыкам лабараторыі, якой кіраваў да лютага 1986 г. Тут ён быў непасрэдным выканаўцам шматлікіх праектаў і ўкаранёных распрацовак на прадпрыемствах БССР і СССР.

Вядомыя яго манаграфіі на тэмы аўтаматызацыя тэхнічнага нармавання працы на металарэзных станках з дапамогай ЭВМ, аўтаматызацыя з дапамогай ЭВМ разліку рэжымаў рэзання і нормаў часу пры аднаінструментальнай апрацоўцы дэталяў на металарэзных станках, Убачылі святло лабараторны практыкум для студэнтаў БПІ па курсе «Аўтаматызацыя праектавання тэхналагічных працэсаў», шэраг брашур, распрацовак дзяржаўных і галіновых стандартаў у вобласці САПР, кіраўнічых і метадычных матэрыялаў Дзяржстандарту СССР – усяго 120 навуковых прац.

З 1999 года навуковец працуе ў лабараторыі мадэлявання тэхналагічных працэсаў ОІПІ НАН Беларусі. На працягу некалькіх гадоў узначальваў спорткамітэт і абіраўся членам групкама АН БССР

У наш час Яўген Уладзіміравіч – намеснік выканаўчага дырэктара ГНТП «Інфармацыйныя тэхналогіі», сакратар навуковай рады «Мадэляванне інтэлектуальных працэсаў», а таксама намеснік старшыні рады ветэранаў інстытута, член рады ветэранаў НАН Беларусі. Выконвае абавязкі адказнага сакратара аргкамітэта праводзімых інстытутам Міжнародных навукова-тэхнічных канферэнцый па інфармацыйных тэхналогіях у праектаванні, вытворчасці і кіраванні.

Я.У.Уладзіміраў узнагароджаны двума бронзавымі (1974, 1980) і двума срэбнымі (1969, 1976), медалямі ВДНГ СССР. Ён – лаўрэат прэміі імя С.І. Мосіна (1978). Быў занесены на Дошку пашаны інстытута (1980, 2007).

**Зычым Яўгену Уладзіміравічу фізічных і духоўных сіл, жыццёвай энергіі, дабрабыту і карысных спраў на карысць беларускай навукі.**

*Мікалай Савік*
*Рамуальд Кулік, супрацоўнікі ОІПІ НАН Беларусі,*
*Савет ветэранаў НАН Беларусі.*

**Ад рэдакцыі:**

«Вольнае Глыбокае» далучаецца да віншаванняў з нагоды 80-ых угодкаў ад нараджэння нашага знакамітага земляка і сталага чытача «Вольнага Глыбокага».

**Усяго найлепшага! А самае галоўнае – здароўя!**

Дарэчы, бацька нашага юбіляра – Уладзімір Уладзіміраў – у 1930-ыя гг быў выдаўцом глыбоцкіх паштовак.

# У Мінску адкрыецца інфармацыйна-аналітычны цэнтр па прыродаахоўных канвенцыях

**На базе рэспубліканскага навукова-даследчага ўнітарнага прадпрыемства «БелНДЦ «Экалогія» 19 лістапада будзе афіцыйна адкрыты інфармацыйна-аналітычны цэнтр па прыродаахоўных канвенцыях.**

Ён створаны ў рамках праекта ПРААН і праграмы Еўракамісіі «Падтрымка навакольнага асяроддзя і ўстойлівага развіцця ў Беларусі». Аб адкрыцці цэнтра паведаміў кіраўнік праекта ЕС/ПРААН «Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні» Дзмітрый Фрышчын 5 лістапада на семінары ў Мінску.

Паводле яго слоў, цэнтр заклікаваны садзейнічаць дзяржаўным органам і іншым арганізацыям у пытаннях рэалізацыі міжнародных дагавораў у галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

Новая структура павінна вырашыць праблемы, звязаныя з кіраваннем канвенцыямі.

Цэнтр, у прыватнасці, будзе праводзіць маніторынг выканання канвенцый, даваць адпаведную справаздачнасць ураду і міжнародным арганізацыям. Супрацоўнікі цэнтра будуць распрацоўваць нарматыўна-прававыя акты, а таксама праектныя прапановы для патэнцыяльных донараў па аказанні тэхнічнай дапамогі, звязаныя з рэалізацыяй міжнародных экалагічных канвенцый. Акрамя таго, структура павінна інфармаваць грамадскасць аб выкананні прыродаахоўных канвенцый і пагадненняў.

Усяго ў свеце існуюць 143 прыродаахоўныя канвенцыі, якія носяць як рэгіянальны, так і глабальны характар. Беларусь з'яўляецца бокам 23 прыродаахоўных канвенцый.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Полацк. Успаміны аб будучыні Глыбокага?



Былы езуіцкі калегіум у Полацку.

■ Ул. Скрабатун

**Полацк мне ніколі не падабаўся. За апошнія гадоў 10, з таго часу як мы пераехалі друкаваць газету ў Маладзечна, я ні разу яго не наведваў.**

Полацк, здавалася б, назаўсёды пакінуў уражанне савецкага недагледжанага горада, нягледзячы на яго 1150-гадовую гісторыю. Сюды без пільнай патрэбы не хацелася ехаць.

І ўсё ж настаў час змяніць адносіны да гэтага горада! Улетку цяперашняга года, калі тут адбываўся рыцарскі фэст ля сценаў старажытнай Сафіі, я ўпершыню прыехаў у Полацк.

Божухны! Горад не пазнаць! Вялікія грошы ўкладзеныя ў добраўпарадкаванне вуліцаў, у аднаўленне і рэстаўрацыю помнікаў даўніны.

Неверагодна: гледзячы на цяпер запушчаную літоўцамі нашую старажытную беларускую Вільню, Полацк на яе фоне ўяўляецца прыгожым еўрапейскім горадам.

Вось стаяў у руінах, шэры, як пачвара, былы будынак езуіцкага калегіума. А цяпер – не пазнаць! Прыгажосць і раскоша!

Пра ўсё гэта не было б сэнсу пісаць, калі б у Глыбокім не стаялі у жахлівым стане падобныя гістарычныя і архітэктурныя аб'екты. А менавіта: будынак глыбоцкага кляштара кармелітаў, які тарцом прымыкае да сцяны царквы, а таксама былы беразвецкі базыльянскі манастыр.

Цяжка ўявіць, што па прыкладзе езуіцкага калегіума ў Полацку будзе аднаўлены хаця б беразвецкі манастыр у Глыбокім. Не веру!

Яскравы прыклад нелюбові чыноўнікаў да роднага горада -- пачатак разбурэння «чырвонай школы», на якой можна было б павесіць не адзін дзясятак мемарыяльных шыльдаў. Незваротна знішчаецца цэлы пласт гісторыі Глыбокага. А яшчэ кажуць, што яны будуць тут развіваць турызм!




Шчыра віншуем цябе з днём народзін!
Жадаем моцнага здароўя і душэўнага спакою.

Пусть сердце не тревожится, что годы твои множатся –
С годами больше мудрости, тепла и доброты,
К здоровью всё приложится, и пусть оно умножится.
Пусть жизнь цветёт по-прежнему, а вместе с ней и ты.

*Родныя.*

# Скаўты ў Бягомлі

■ кс. Віктар Місевіч

**6 і 7 лістапада парафія Хрыста Валадара Сусвету ў Бягомлі стала прытулкам для скаўтаў з Барысава. Прыехаў амаль цэлы звяз хлопцаў: кап'ё Мядзведзя і кап'ё Ястраба. Амаль увесь вольны час яны бавілі ў лесе, займаючыся рознымі практыкаваннямі: будавалі скаўцкія базы, праводзілі гульні і гатавалі ежу.**

У парафіяльным доме ў Бягомлі прайшло імправізаванае Вогнішча з падрыхтаванымі загадзя сцэнкамі і конкурсамі.

Скаўты – моладзевая арганізацыя, якая грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях. Таму падчас сустрэч абавязковай з'яўляецца малітва. У нядзелю на Св. Імшы скаўты служылі ля алтара, чыталі Божае слова. На службе стаяла ганаровая варта. Падчас знакавых момантаў св. Імшы узнімаўся скаўцкі сцяг.

У нядзелю адбылося шыхтаванне, на якім былі прызначаны кап'явыя і павязаны скаўцкія хусткі наймалодшым. Пад радасныя водгукі пераможцам асенніка было аб'яўлена кап'ё Ястраба. Яны былі лепшымі ў спаборніцтвах і справядліва заслужылі новую стужку на свой татэм.

Барысаўскі звяз лічыцца адным з наймацнейшых у скаўцкім руху на Беларусі. Забягаючы наперад, дадамо, што ўлетку плануецца правесці агульнабеларускі злёт скаўтаў. Не выключана, што месцам правядзення летніка стане Бягомльшчына.

Віцебская дыяцэзія таксама можа пахваліцца сваімі суполкамі скаўцкага руху. Ёсць яны ў Глыбокім, Паставах і Лынтупах. **Поспехаў і шматлікіх сяброў беларускім скаўтам!**

*Фота: Кс. Віктар Місевіч.*

# Круглы стол па безбар'ерным асяродзі для інвалідаў по зроку

■ Я. Самсонаў

Сучаснае імклівае жыццё нават для здаровага чалавека тоіць нямала неспадзевак. А што рабіць, калі вы інвалід і фізічна абмежаваны у сваіх дзеяннях, каб супрацьстаяць псіхалагічнаму ціску шэрых і маркотных будняў, якія кранаюць усе сферы вашага жыцця – асабістага, духоўнага і матэрыяльнага? Асабліва адчувальныя ў гэтым плане інваліды па зроку, бо чалавек 90 працэнтаў інфармацыі атрымлівае менавіта дзякуючы зроку.

Бясспрэчна, шмат добрых спраў робіцца ў накірунку паляпшэння ўмоў жыцця інвалідаў па зроку Глыбоцкім аддзяленнем БелТІЗ і Цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання. Але час не стаіць на месцы і дыктуе новыя патрабаванні.

Менавіта з гэтай нагоды 3 лістапада ў Глыбокім адбыўся круглы стол па безбар'ерным асяродзі для інвалідаў па зроку. На ім прысутнічалі зацікаўленыя асобы з 8 раёнаў паўночна-заходняга рэгіёна Віцебскай вобласці.

Галоўная мэта круглага стала – абмеркаванне вынікаў праграмы па безбар'ерным асяродзі інвалідаў па зроку 2005 – 2010 гадоў і фарміраванне новай праграмы на 2010 – 2015 гады.

**Віцебскае аддзяленне рэабілітацыі інвалідаў па зроку.**

З уступным словам выступіў старшыня Віцебскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання Беларуская таварыства інвалідаў па зроку Аляксандр Дубко. Ён распавёў аб тых праблемах, з якімі сутыкаюцца інваліды. Аб дзейнасці аддзялення рэабілітацыі, якое ажыццяўляе комплексную сацыяльна-медыцынскую рэабілітацыю інвалідаў па зроку з мэтай іх адаптацыі ў грамадстве і аднаўлення іх сацыяльнага статусу, навучанне спецыяльным ведам, уменням і навыкам ў сацыяльнай галіне і сямейна-бытавой дзейнасці, што дазволіць інваліду па зроку вырашаць штодзённыя задачы, пашыраць сферу яго самастойнасці, дапаможа ў рэалізацыі яго магчымасцяў і інтарэсаў, дапаможа набыць душэўную раўнавагу і надзею на годнае жыццё. Аляксандр Анатольевіч працягваў далей: «Пад пільным наглядам доктара-афтальмолага праходзяць аздараўленчыя мерапрыемствы, у якія ўваходзіць шэраг фізіятэрапеўтычных працэдур, псіхалагічная рэабілітацыя і прыватнае псіхалагічнае кансультаванне. У Віцебскім аддзяленні рэабілітацыі для інвалідаў па зроку праводзіцца навучанне эфектыўным прыёмам самастойнага арыентыру ў прасторы, карыстання тыфлатэхнічнымі сродкамі рэабілітацыі, чытанню і пісьму па сістэме Брайля, умеламу і бяспечнаму карыстанню бытавой тэхнікай, фарміраванню спецыфічных жыццёва неабходных навыкаў самаабслугоўвання і дамаводства. Праводзяцца таксама заняткі па працы на камп'ютары, што дазваляе пачынаючым карыстальнікам самастойна працаваць з камп'ютарам з выкарыстаннем гукавой праграмы для людзей без зроку "JAWS"».

Аляксандр Дубко

**Прапановы з рэгіёнаў.**

З першай спраздачай аб выкананні праграмы па безбар'ерным асяродзі мінулай пяцігодкі і прапановамі на будучыню выступіла Ірына Лапа – старшыня Глыбоцкага аддзялення інвалідаў па зроку. Галоўная бяда– тое, што ў раёне ўжо другі год няма доктара-афтальмолага, таму вялікія цяжкасці ў інвалідаў па зроку з медыцынскай дапамогай, атрыманнем тыфлатэхнічных сродкаў, уладкаваннем на працу, афармленнем дакументаў, неабходных для прыёма ў аддзяленне рэабілітацыі. Ірына Рыгораўна выказала падзяку чулым людзям, абласному аддзяленню, мясцоваму кіраўніцтву за цеснае супрацоўніцтва, узаемаразуменне, добразычлівасць і падтрымку.

У сваю чаргу Тамара Далманава – намеснік галоўнага ўрача Глыбоцкага ТМА – запэўніла прысутных, што ў цяперашні час доктар-афтальмолаг праходзіць стажыроўку і ў хуткім часе прыступіць да выканання сваіх абавязкаў.

Загадчык аддзелам пярвічнага аналізу і прагназавання Глыбоцкага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Святлана Булах расказала, што згодна праграмы безбар'ернага асяроддзя для інвалідаў па зроку распрацаваныя ме-

*Заканчэнне на стар. 11*

**Выступае І. Лапа.** *Фота Я. Самсонава.*

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету.*

# Выдатны настрой сапсавалі работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі

Позняя восень, золка і холадна, прырода ў чаканні зімы. Здавалася б, і аматары палавіць рыбу забароненымі прыладамі рыбалоўства павінны трохі супакоіцца, але, карыстаючыся апошнімі днямі перад ледаставам, браканьеры спрабуюць сарваць куш, аднак не заўсёды і не ва ўсіх гэта атрымліваецца.

2 лістапада 2010 года рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі адправілася ў начны рэйд па выяўленні і затрыманні браканьераў. У гэты ж прыкладна час двое сяброў, жыхар Докшыцкага раёна грамадзянін Н. і жыхар Мядзельскага раёна грамадзянін П., узяўшы з сабою гумовую лодку, астрогу, фару і акумулятар, паехалі на вадасховішча «Гарадзішчанскае» ў Докшыцкім раёне. Спадзеючыся на ўдачу і дапамогу цёмнай ночы, два таварышы спакойна сталі здабываць рыбу з дапамогай святла і восцяў, улоў абяцаў быць добрым. За кароткі час паспелі здабыць 5 шчупакоў, хай і невялікіх, але шчупакоў. Настрой быў выдатным, толькі яго сапсавалі работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі, якія невядома адкуль з'явіліся. У браканьераў канфіскаваныя лодка, восці, фара. Складзены адміністрацыйныя пратаколы, а штраф за браканьерства абяцае быць немаленькім.

20 кастрычніка 2010 года судом Шаркоўшчынскага раёна разгледжана крымінальная справа ў дачыненні да 4 мясцовых жыхароў, якіх работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымалі ў ліпені месяцы за незаконную лоўлю рыбы і ракаў. Рашэннем раённага суда ўсе чацвёра грамадзян падвергнуты пакаранню ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 1 год з адтэрміноўкай выканання прысуду. Парушальнікі таксама пакрылі дзяржаве прычыненую шкоду ў памеры 3 млн. 550 тысяч рублёў. Сапраўды, рыбка і ракі сталіся залатымі.

У апошнія месяцы на тэрыторыі раёна сталі высякаць кусты на землях сельскагаспадарчага прызначэння, людзі нарыхтоўваюць дровы для асабістых патрэб, але нельга забываць і пра законнасць нарыхтоўкі дроў і іх вывазкі. Нельга вывозіць дровы з месца нарыхтоўкі без агляду месца нарыхтоўкі работнікамі лясгаса і складання акта агляду. Пры выяўленні такіх выпадкаў на парушальнікаў складаюцца адміністрацыйныя пратаколы і нарыхтаваныя за капейкі дровы могуць стаць вельмі дарагімі. Месцы нарыхтоўкі дроў павінны быць вычышчаны ад галінак і смецця, пры выяўленні нявычышчаных месцаў рубкі дрэў вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці: штрафу да 20 базавых велічынь.

Работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі пераканаўча просяць грамадзян выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, не пакідаць пасля сябе смецця, галінкі і парубачныя рэшткі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: **2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28.**

■ **Анастасія Янушэўская,** БелаПАН

# У Беларусі знойдзены новы від птушак — паўночная олуша

**У Беларусі знойдзены новы від птушак — паўночная олуша, – паведаміў спецыяліст па экалагічнай адукацыі грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) Руслан Шайкін.**

Паводле яго слоў, у пачатку кастрычніка мёртвая птушка з кальцом Маскоўскага цэнтра кальцавання была знойдзена недалёка ад Смалявічаў (Мінская вобласць) мясцовым жыхаром Віталем Сахвонам. Ён перадаў інфармацыю ў Беларускі цэнтр кальцавання птушак і зрабіў відэаздымку знаходкі. «Гэта з большай ступенню верагоднасці дазваляе сцвярджаць, што від будзе ўнесены ў афіцыйны спіс беларускіх птушак на чарговым пасяджэнні Беларускай арнітафаўністычнай камісіі»,– сказаў Шайкін.

Ён зазначыў, што паўночная олуша — распаўсюджаная ў Паўночнай Атлантыцы марская птушка, якая па знешнім выглядзе нагадвае баклана.

Маладыя асобіны маюць цёмна-бурую афарбоўку, дарослыя — амаль чыста белую, на пясочнай галаве чорная маска. Птушка харчуецца рыбай і вылучаецца своеасаблівай манерай палявання. З вялікай вышыні яна нырае на глыбіню да некалькіх метраў, дзе палюе на буйную тлустую рыбу, недаступную для іншых марскіх птушак.



«Знаходжанне новай птушкі на тэрыторыі Беларусі спачатку выклікала «буру абмеркаванняў» сярод арнітолагаў, многія з якіх не верылі, што паўночная олуша можа заляцець у краіну,– сказаў Шайкін.– Аднак зараз верагоднасць вызначэння віду не выклікае сумненняў».

Як мяркуе спецыяліст, птушка магла прыляцець у Беларусь з поўначы Расіі, выконваючы «разведку тэрыторыі».

Усяго, паводле слоў Шайкіна, у Беларусі налічваецца 317 відаў птушак.

# «зБАЖына», «Информ-прогулка» і «Intex-press» – пераможцы конкурсу да 15-годдзя БАЖ




■ Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

**Лаўрэатамі конкурсу тэматычных матэрыялаў да юбілею ГА «БАЖ» сталі лунінецкая газета «Информ-прогулка», спецвыпуск незалежных дэмакратычных выданняў Магілёўшчыны «зБАЖына», які выпусціла магілёўская суполка БАЖ, а таксама баранавіцкая «Intex-press».**

Вынікі конкурсу, абвешчанага БАЖ напярэдадні свайго юбілею ў верасні гг., сябры журы агучылі 22 кастрычніка ў Мінску на сустрэчы кіраўніцтва арганізацыі з рэдактарамі рэгіянальных СМІ.

Першае і другое месцы падзялілі на роўных «Информ-прогулка» і «зБАЖына», а трэцяе месца


Грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
ДЫПЛОМ
УЗНАГАРОДЖВАЕЦЦА
сябра ГА «БАЖ»
ЯЎГЕН САМСОНАЎ
22 кастрычніка 2010 г.
Мінск

прысудзілі «Intex-press».

«За арыгінальнасць падачы матэрыялу» быў адзначаны таксама сябра ГА «БАЖ» з Глыбокага **Яўген Самсонаў**, які даслаў на конкурс хоць і «нефарматны», але цікавы відэакліп-віншаванне (яго можна будзе паглядзець на сайце http://baj.by крыху пазней).

Усе пераможцы атрымалі памятныя дыпломы і сувеніры.

**На кожным прадпрыемстве, у некаторых індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб маюцца ўнаяўнасці стацыянарныя або перасоўныя (пераносныя) электраўстаноўкі для зваркі пастаяннага ці зменнага току, якія характарызуюцца высокай ступенню небяспекі паразы электрычным токам.**

**Энерганагляд папярэджвае!**

# Электразварачныя электраўстаноўкі

■ **А.С.Крывёнак,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага раёна*

Асноўнымі чыннікамі няшчасных выпадкаў, якія адбываюцца ў сувязі з няправільным абыходжаннем з электразварачным абсталяваннем, з'яўляюцца:

- нездавальняючы тэхнічны стан электразварачнага абсталявання; адсутнасць прылады абмежавання напругі халастога ходу зварачнага трансфарматара, адсутнасць ахоўнага зазямлення (занулення) корпуса электразварачнай усталёўкі і вывада другаснага ланцуга крыніцы зварачнага току;
- незабеспячэнне належнага кантролю з боку адказных службовых асоб за бяспечным правядзеннем электразварачных работ;
- нездавальняючае ўтрыманне працоўнага месца электразваршчыка, загрувашчванне працоўнага месца і праходаў да яго староннімі прадметамі і дэталямі;
- правядзенне электразварачных работ у адзенні, якое не прызначана для гэтых відаў работ;
- ужыванне нестандартнага самаробнага электрадатрымальніка, у канструкцыі якога прысутнічаюць адкрытыя такаводныя часткі, што не забяспечвае абарону работніка ад выпадковага дакранання да іх.

Да электразварачных работ допускаюць толькі электратэхналагічны персанал з кваліфікацыйнай групай па электрабяспецы II і вышэй.

Перад далучэннем зварачнай усталёўкі варта правесці вонкавы агляд усёй усталёўкі і пераканацца ў яе спраўнасці. Адмысловую ўвагу пры гэтым звярнуць на стан кантактаў і заземляльных правадоў, спраўнасць ізаляцыі рабочых правадоў, наяўнасць і спраўнасць ахоўных сродкаў. Пры выяўленні якіх-небудзь няспраўнасцяў зварачную усталёўку ўключаць забараняецца.

Адказнасць за эксплуатацыю зварачнага абсталявання, бяспечнае правядзенне зварачных работ вызначаецца службовымі інструкцыямі, зацверджанымі кіраўніком прадпрыемства. Пры наяўнасці ў спажыўца пасады галоўнага зваршчыка ці работніка, які выконвае яго функцыі (напрыклад, галоўнага механіка), указаная адказнасць ускладаецца на яго.

# Будзьма з нацыянальнымі традыцыямі!




28 лістапада ў 18.00 гурт сярэднявяковай музыкі **Testamentum Terrae** і кампанія "Будзьма беларусамі" ў клубе "Рэактар" прэзентуюць альбом "ANGLEZA" пры падтрымцы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і Польскага Інстытута ў Мінску.

У канцэрце таксама ўдзельнічаюць гурты: **Рокаш, Кашлаты Вох, Омут.**

Наведвальнікаў чакаюць песні і танцы, казкі і прыказкі, ваярскія спевы і гімны.

**Квіткі:** 15 000 – 25 000
**Даведкі:** (029) 649-08-88
**Кропкі продажу:** пераход Я.Коласа, ГУМ, Кастрычніцкая, клуб «Реактор», ГЦ Купалаўскі, 19 кропка і інш.

27 лістапада у клубе «Рэактар» а 18.00 адбудзецца вялікі супольны канцэрт гуртоў :**B:N**: і **IQ48.**

Падчас выступлення гурта :B:N: будуць адбывацца здымкі кліпа на песню "Жыццё маё".

**Квіткі:** 20 000 – 30 000 рублёў.
**Даведкі:** 649-08-88
**Кропкі продажу:** пераход Я.Коласа, Гум, Кастрычніцкая, клуб «Реактор», ГЦ Купалаўскі, 19 кропка і інш.

26 лістапада у Палацы культуры чыгуначнікаў **ЗМІЦЕР ВАЙЦЮШКЕВІЧ і WZ-orkiestra** запрашаюць на канцэрт, прысвечаны 80-цігоддзю Уладзіміра Караткевіча.

Пачатак 19.00.
**Квіткі:** 30 000 – 40 000 рублёў.
**Даведкі:** 649-08-88
**Кропкі продажу:** пераход Я.Коласа, Гум, Кастрычніцкая, каса Палаца чыгуначнікаў і інш.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

15 – 21 лістапада 2010 г.











## ПАНЯДЗЕЛАК, 15 лістапада




**06.00**, **07.00**, **08.00**, **09.00**, **12.00**, **13.00**, **14.00**, **15.00**, **16.00**, **17.05**, **18.00**, **19.00**, **23.15** Новости.
**06.05**, **07.10**, **08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25**, **11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** «В центре внимания».
**10.35**«Культурные люди».
**11.05** **«Маруся»**
**12.10** Мелодрама **«Найденыш»**
**14.05** Женское ток-шоу
**15.20**, **19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** «Беседа» длиною в 20 лет».
**16.20** Nota Bene.
**16.45«Спальный район»**
**17.30** **«Маруся»**
**18.35**«Евровидение2010».
**18.50**, **01.20** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** «Актуальное интервью».
**22.10** **«Отчаянные домохозяйки-5»**
**23.30** **«Детектор лжи»**
**01.25** День спорта.




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Морской патруль-2»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.50** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Родом из детства».
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10** «Голоса».
**23.15** Наши новости.
**23.30** Новости спорта.
**23.35** «Рабы суеверий».
**00.35** **«Виола Тараканова.В мире преступных страстей».**
**01.2501.45** Ночные новости.

ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**06.35** **«Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05«Чисто английские убийства»**
**09.10** **«Любовь как любовь»**
**10.15** **«Лицензия на убийство»**
**12.35** Пра мастацтва.
**13.05** Школа ремонта.
**14.05** **«Полюби меня снова»** (Мексика).
**14.55** Внеклассный час.
**15.10** Телебарометр.
**15.30** Премьера. «Расшифровать дресс-код». Документально-познавательный цикл (Франция).
**16.00** **«Налетчики»**
**16.50** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»** (Великобритания).
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»** (Россия).
**19.05** К 85-летию Белорусского радио. «День радио». Документальный фильм.
**19.35** «Дача здоровья».
**20.15** Калыханка.
**20.30** Телебарометр.
**20.35** Белорусское времечко.
**21.40** **«Интерны»**
**22.20** **«Универ»** (Россия).
**22.55** Овертайм.
**23.30** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.25** **«Налетчики»**

СТВ REN TV — ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Я-путешественник».
**13.00** «У парадного подъезда» . Суворовское училище.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Руслана против группы «Да Винчи» и Оркестра Белгосуниверситета культуры и искусств.
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Взрослые игры».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «В тему».
**20.30** ПРЕМЬЕРА! **«ИЛЛЮЗИЯ СТРАХА»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ПОГРАНИЧНЫЙ ГОРОД»**.



БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00**Тыдзеньу«Аб'ектыве»
**07:30** «Род Алелькавічаў-Слуцкіх»
**07:40** Прэс-экспрэс
**07:55** ПраСвет
**08:20** Эксперт
**08:40**Прыватная калекцыя
**09:00** Моўнік
**09:10** Басанож па свеце : «Выспы Кірыўіна»
**09:35** «Сістэма» , дак. фільм
**10:40** **«Час гонару»**: 3 сер
**11:30** **«Мастацтва плакаць»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Сонечная дзіда»**: 6 серыя
**17:30** **«Час гонару»**: 3 сер
**18:20** Госць «Белсату»
**18:35** «Першая катастрофа»
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30** Калыханка для самых маленькіх
**19:40** Еўропа сёння
**20:10** «Бітва на рацэ Ула»
**20:20** «Рэвалюцыя ў рас-тэрміноўку»
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Рэмарка
**21:40** **«Мастацтва плакаць»**
**23:20** Аб'ектыў

### Â³öåáñêàÿ àáëàñíàÿ àðãàí³çàöûÿ ÒÁÌ ïàäâÿëà âûí³ê³ àãëÿäó-êîíêóðñó ïåðûÿäû÷íàãà äðóêó ïà ¢æûâàíí³ áåëàðóñêàé ìîâû

# “Ç áåëàðóñê³ì ñëîâàì ó æûöö³”

**Юрась Бабіч,**
*старшыня журы агляду-конкурсу, намеснік старшыні Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.*

**Згодна з пастановай сакратарыяту ТБМ ад 9 лютага 2010 г. (гл.: “Наша слова”, 17 лютага 2010 г.) Віцебская абласная арганізацыя правяла агляд-конкурс перыядычнага друку па ўжыванні беларускай мовы “З беларускім словам у жыцці”. Вынікі зацверджаны на пасяджэнні рады 30 кастрычніка.**

Нагадаем, што мэтай агляду-конкурсу было заахвочванне рэдакцый да паўнавартаснага выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы на старонках газет, папулярызацыя беларускай культуры і гісторыі Беларусі; інфармаванне органаў улады, грамадскасці аб стане ўжывання беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі вобласці.

Агляд-конкурс праводзіўся па трох катэгорыях:

- абласныя, гарадскія газеты;
- раённыя газеты;
- недзяржаўныя выданні.

Пры падвядзенні вынікаў агляду-конкурсу ўлічвалася выкарыстанне беларускай мовы пры падрыхтоўцы матэрыялаў супрацоўнікамі рэдакцый, наяўнасць беларускамоўных публікацый творчага характару і літаратурных старонак, культура мовы, выступленні афіцыйных асоб на старонках газет па-беларуску, ужыванне беларускай мовы ў выступах у друку святароў, а таксама беларуская мова ў тэкстах віншаванняў, рэкламы і аб’яў.

У склад журы агляду-конкурсу ўваходзілі выкладчыкі ВНУ, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, прафесійныя журналісты, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, кіраўнікі абласной арганізацыі ТБМ.

Была праароблена вялікая праца па вывучэнні і аналізе мовы друкаваных выданняў Віцебшчыны за перыяд з 1-га красавіка па 1-га кастрычніка 2010 г. Тут нялішнім будзе прыгадаць, што абласная арганізацыя ўжо праводзіла аналагічны агляд-конкурс у 2009 годзе. Таму несумненную цікавасць уяўляла пытанне: што змянілася ў плане выкарыстання беларускай мовы ў рэгіянальных медыях за апошнія паўтара года?

З прыемнасцю можна канстатаваць, што ў цэлым найлепшыя паводле моўных якасцяў газеты мінулага года пацвердзілі свае пазіцыі і зараз. Першае месца сярод раённых выданняў прысуджана “Браслаўскай звяздзе” (галоўны рэдактар – Казімір Пятушка) і шумілінскай раёнцы “Герой працы” (галоўны рэдактар – Аліна Пятрова ). Не менш за 90% інфармацыі ў названых выданнях даецца па-беларуску. Адзначым адначасова, што, напрыклад, у “Браслаўскай звяздзе” на роднай мове пададзена рубрыка “Суботнім вечарам”, афіцыйная інфармацыя раённага Савета дэпутатаў таксама па-беларуску. І, зразумела, сам сп. Казімір Пятушка друкуе ўласныя матэрыялы на мове тытульнай нацыі. Заўважым, што прафесійна валодаюць мовай і іншыя журналісты, у прыватнасці, В. Буланава, А. Набіева, З. Палулех. Газета часта выкарыстоўвае адметныя беларускія словы: Дзяўчаты … змаглі пазнаёміцца з маладымі вернікамі з іншых краін (7 жніўня).

У афіцыйным выданні Шумілінскага раёна таксама на высокім прафесійным узроўні выкарыстоўваецца беларуская мова. Звароты афіцыйных асобаў, святароў (у тым ліку і праваслаўных) падаюцца па-беларуску. І з пункту гледжання культуры мовы выданне адпавядае дастаткова высокім крытэрыям.

Другое месца прысуджана газетам “Родныя вытокі” (Докшыцкі раён, за рэдактара – Нэлі Бяляўская) і ”Міёрскія навіны” (галоўны рэдактар – Леанід Матэленак). Важна, што тут выступы кіраўніцтва раёна, іншых афіцыйных асоб падаюцца, як правіла, таксама па-беларуску.

Трэцяе месца падзялілі шаркаўшчынская газета “Кліч Радзімы”(галоўны рэдактар – Эдуард Корсак) і “Пастаўскі край ”(галоўны рэдактар – Фаіна Касаткіна). Усе выданні-прызёры карыстаюцца пераважна беларускай мовай. Па-руску змяшчаюцца хіба толькі звесткі з банкаў, падатковых органаў, частка віншаванняў і рэкламных аб’яў.

Журы адзначае дастаткова высокі ўзровень ужывання беларускай мовы “Веснікам Глыбоччыны” (галоўны рэдактар – Ганна Капшуль) і “Дняпроўскай праўдай”( Дубровенскі раён, галоўны рэдактар – Лідзія Чапялова).У параўнанні з мінулым годам палепшылася сітуацыя з мовай у “Гарадоцкім весніку” (галоўны рэдактар – Андрэй Захараў). Прычым не толькі вырасла колькасць беларускамоўных публікацый, але і змянілася ў лепшы бок і іх якасць. Магчыма, гэта звязана з прыходам на працу ў газету маладых спецыялістаў Наталлі Балсуноўскай і Любові Шляйко(Сіманавай). Такая тэндэнцыя дазваляе спадзявацца на яшчэ большае пашырэнне роднай мовы на старонках выдання. У гэтым жа кантэксце адзначым і газету “Лепельскі край” (галоўны рэдактар – Уладзімір Шаўчэнка), дзе каля 60% публікацый–беларускамоўныя. Асабліва хацелася б звярнуць увагу на працу журналістаў Васіля Матыркі і Святланы Сільвановіч.

На жаль, журы мусіць канстатаваць, што ў некаторых выданнях дзяржаўная беларуская мова прысутнічае ў мінімальным аб’ёме. Найгоршая сітуацыя ў лёзненскай раёнцы “Сцяг Перамогі” (галоўны рэдактар – Алена Ратнёва),чашніцкай “Чырвоны прамень” (галоўны рэдактар – Міхась Дзеравяга) і віцебскім раённым выданні “Жыццё Прыдзвіння” (галоўны рэдактар – Мікалай Кахно).

Разам з тым варта заўважыць, што па сутнасці ў кожнай газеце ёсць журналісты, якія прафесійна валодаюць беларускай мовай і пераважна падаюць свой матэрыял па-беларуску. Гэта, у прыватнасці, Анатоль Зінкевіч, Галіна Сутула, Алесь Жыгуноў з “Весніка Глыбоччыны”, Фёдар Кулакоў з “Дняпроўскай праўды”, Вольга Бандарэвіч з “Голаса Сенненшчыны”, Сяргей Абрамовіч з “Нашай Талачыншчыны”, некаторыя іншыя аўтары.

**Журы адзначае дастаткова высокі ўзровень ужывання беларускай мовы “Веснікам Глыбоччыны” і “Дняпроўскай праўдай” (Дубровенскі раён).**

У намінацыі “абласныя і гарадскія газеты” было прынята рашэнне пераможцаў не аб’яўляць, бо ніводнае выданне не вытрымлівае нават мінімальных патрабаванняў. Усе газеты, што выдаюцца, напрыклад, у Віцебску, карыстаюцца, за рэдкім выключэннем, рускай мовай, хоць фармальна лічацца двухмоўнымі. Тым не менш сярод гэтай катэгорыі выданняў вылучаецца ў лепшы бок “Полацкі веснік” (галоўны рэдактар – Вольга Часнавіцкая). Можна сказаць, што каля дваццаці працэнтаў інфармацыі тут падаецца па-беларуску. І выразна вылучаюцца прафесійным валоданнем мовай журналісты Аляксандр Замкоўскі і Вольга Гавяйновіч.

У апошняй намінацыі, сярод недзяржаўных выданняў, па-за канкурэнцыяй зноў **“Вольнае Глыбокае”** (галоўны рэдактар – Уладзімір Скрабатун). Тут не толькі ўласныя матэрыялы, аналітыка даюцца па-беларуску, але і рэклама, прыватныя абвесткі, віншаванні. Можа, таму і карыстаецца газета вялікай папулярнасцю, бо набыць яе не заўсёды проста. На жаль, паменела роднага слова на старонках іншага недзяржаўнага выдання – газеты “Віцебскі праспект” (галоўны рэдактар – Георгій Капылоў). Яшчэ год таму сітуацыя была іншай, а зараз нават матэрыялы на тэмы культуры часцей падаюцца па-руску. “Вяршыняй” можна лічыць нумар ад 23 верасня 2010 года, у якім няма ніводнай (!!!) нататкі па-беларуску. І гэта пры тым, што ў нумары ёсць вялікі матэрыял пра абласную бібліятэку (!?). Магчыма, у рэдакцыі змяніліся моўныя прыярытэты.

І яшчэ адно важнае пытанне. Усе без выключэння газеты прапануюць праграму тэлебачання па-руску. І гэта якраз той выпадак, калі цяжка выказаць нейкія прэтэнзіі да рэдакцыйных калектываў. Справа ў тым, што праграма перадаецца ў сродкі масавай інфармацыі ўнітарным прадпрыемствам “БелТА” толькі па-руску. Віцебская абласная рада ТБМ звярталася да кіраўніка агенцтва сп. Дз. Жука з просьбай разгледзець магчымасць рассылкі ў рэдакцыі газет беларускамоўнага варыянту тэлепраграмы. Але ў атрыманым за подпісам першага намесніка генеральнага дырэктара УП “БелТА” сп. Луцкага адказе гаворыцца, што “апэратыўнасць рассылкі тэлепраграм з’яўляецца галоўным фактарам, а пераклад патрабуе дадатковага часу, што непрымальна для большасці газет. Акрамя таго, затраты па перакладзе прывядуць да павелічэння кошту праграмы тэлеперадач…”. Прымаючы пад увагу сказанае, Віцебская абласная арганізацыя разам з тым звяртаецца да кіраўніцтва цэнтральных органаў ТБМ з прапановай пасадзейнічаць са свайго боку ў пошуку магчымых шляхоў вырашэння названай праблемы. Бо адсутнасць беларускамоўных тэлепраграм ёсць прамое парушэнне правоў чытача на атрыманне інфармацыі на роднай мове.

Колькі слоў пра тыповыя памылкі. Зразумела, што выклікаюць цяжкасці канчаткі назоўнікаў другога скланення мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным і месным склонах. У родным склоне не заўсёды размяжоўваецца ўжыванне флексій а(я), у(ю). Трэба: менеджменту, прагрэсу, ветру, торфу і з горада, з Віцебска, паводле падпісанага акта. У месным склоне неабходна размяжоўваць асабовыя назоўнікі і неасабовыя. Асабовыя маюць канчатак у(ю), неасабовыя – е, і, ы: пры рэвізору, пры чытачу, пры Андрэю, пры Міхасю; на дубе, на аўтамабілі, у продажы. Апошні прыклад выклікае ці не найбольшыя праблемы, бо ўжываецца назоўнік продаж бадай што часцей з канчаткам у, што зусім няправільна.

Таксама звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне дзеепрыметнікаў. Намі зафіксаваная вялікая колькасць памылкова ўжытых формаў, якія дублююць рускамоўныя варыянты: падпісаўшыеся, пастарэўшыя, думаючы вучань, ідучы аўтобус і г.д. Правільна павінна быць адпаведна: якія падпісаліся; пастарэлыя, вучань, які думае; аўтобус, які ідзе. І не варта баяцца таго, што канструкцыя будзе больш доўгай, можа, часам падасца груваскай. Гэта не мае ніякага значэння, калі гаворка ідзе пра захаванне літаратурных нормаў.

Тыповым недахопам на сінтаксічным узроўні з’яўляецца няправільная будова дастаткова распаўсюджаных словазлучэнняў. Так, па-беларуску нельга сказаць смяяцца над жартам, здзекавацца над чалавекам, ажаніцца на аднакурсніцы, хварэць грыпам, пайсці за хлебам. Правільна будзе смяяцца з жарту, здзекавацца з чалавека, ажаніцца з аднакурсніцай, хварэць на грып, пайсці па хлеб. Яшчэ адной тыповай памылкай з’яўляецца няправільнае выкарыстанне ступеняў параўнання прыметнікаў ці прыслоўяў: ён старэй жонкі на пяць гадоў, маладзей сястры на некалькі гадзін, больш дваццаці чалавек, зрабіў менш усіх. У беларускай мове ў падобных выпадках не можа быць беспрыназоўнікавай ці бяззлучнікавай канструкцыі. Таму ў прыведзеных спалучэннях павінна быць адпаведна: ён старэйшы за жонку на пяць гадоў, маладзейшы за сястру на некалькі гадзін, больш за дваццаць чалавек, зрабіў менш за ўсіх.

Узнікаюць пэўныя пытанні і адносна выкарыстання асобных лексічных адзінак. Так, намі зафіксаваны лексемы рэзультат, рабяты, свяшчэннік, веруючыя, харошы, выхавацель, дварэц культуры і г.д. Зразумела, што па-беларуску павінна быць вынік, дзеці (хлопцы, дзяўчаты – у залежнасці ад сітуацыі), святар, вернікі, добры, выхавальнік, палац культуры. Памылковыя ўжыванні лексікі сведчаць не толькі пра непрафісіяналізм аўтараў, але і пра элементарную ляноту ці проста нежаданне паглядзець у слоўнік, выбраць патрэбную лексему. На гэтым фоне пакуль цалкам неверагодна ўявіць, што з мэтай захавання нацыянальнай адметнасці мовы газеты маглі б карыстацца сапраўды паказальнымі беларускімі назоўнікамі кшталту летнік, лецішча, мінак, уцякач, закладнік, сеціва, месціч і г.д.

Такім чынам, можна канстатаваць, што многія раённыя выданні Віцебшчыны выкарыстоўваюць на сваіх старонках у асноўным беларускую мову. Гэта, у першую чаргу, датычыць паўночна-заходніх рэгіёнаў, дзе заўсёды адзначаўся больш высокі ўзровень валодання мовай насельніцтвам, а таксама друкаванага органа Шумілінскага раёна. На жаль, застаецца мінімальнай прысутнасць нашай роднай мовы на старонках гарадскіх і абласных газет (пэўнае выключэнне – “Полацкі веснік”). І з вялікім задавальненнем яшчэ раз канстатуем, што па-беларуску выходзіць папулярнае незалежнае выданне **“Вольнае Глыбокае”,** якое і карыстаецца заслужаным аўтарытэтам у чытачоў.

Мы шчыра віншуем пераможцаў, жадаем і надалей трымацца беларускага слова. Са свайго боку абяцаем безумоўную падтрымку кансультацыйнага характару.

## ІМЯНІНЫ

**11 лістапада**
**Пр.:** Анастасіі, Ганны, Марыі. Віктара, Мікалая, Яўгена.
**К.:**Анастасіі, Марціна, Маццея, Тодара, Эміля, Яна.

**12 лістапада**
**Пр.:** Алены, Анастасіі, Леаніда, Марка, Мацвея, Сцяпана.
**К.:** Рэнаты, Вітольда.

**13 лістапада**
**Пр.:** Аляксандра, Аляксея,Івана, Сяргея, Якава, Анатоля.
**К.:**Валянціны, Станіславы, Хрысціны, Мікалая, Станіслава, Аркадзя.

**14 лістапада**
**Пр.:** Ульяны, Аляксандра, Дзмітрыя, Фёдара, Івана, Сяргея.
**К.**:Андрэя, Уладзіміра, Юзафа.

**15 лістапада**
**Пр.:**Канстанціна.
**К.:** Альберта, Леапольда, Амеліі, Марыі, Артура.

**16 лістапада**
**Пр**.:Васіля, Вікенція, Георгія, Мікалая, Іосіфа.
**К.:**Маці Божай Вастрабрамскай, Гертруды, Марка.

**17 лістапада**
**Пр**.Аляксандра, Арсенія.
**К.:**Валерыі, Саламеі, Рыгора, Валерыя, Здзіслава.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Брачное … | | Положение тела | | … молодцу не укор | | Птица семейства грифов | | Шум, крик, гам | Страна в Африке |
| Кандалы | | | | | | Гнуть в бараний … | | | |
| Монарх, владыка | | Искушение | | Муза Петрарки | | | | | |
| | | | | | | Гектар | | Первым перелетел через Ла-Манш | |
| Течение в иудаизме | Мяч вне игры | | Сосновый лес | Старое название Бирмы | Гауптвахта | | | | |
| | | | | | | | Фора слабому | | Бык |
| Добыча рыбака | | | | | Грузинский театр | Древнегреческая богиня | | | |
| Мужское имя | | | | | | Жанна д'… | | | |
| Бабочка семейства данаид | Жираф | | Район Москвы | Бог из ведийского пантеона | | | | | Водный цветок |
| | | | | | | Узбекский барабан | | | |
| Летний цирк | | Мальчик-слуга | | "… ветра в поле" | | | | Ядовитая жаба | |
| | | | | | | Палач | | | |
| Польский барин | | | | Добро, счастье | | | | | |
| Народ в России | | | | | | Отдать … | | | |

**Адказы на сканворд № 44**
**По горизонтали:** Анкоридж. Наиб. Ферт. Биск. Ева. Вайоминг. Геракл. Легато. Ле. Каин. "Динамо". Пи. Кан. Клещ. Орало. Ре. **По вертикали:** Танеев. Лоб. Пири. Нарвал. Китай. Жок. Бум. Сан. Обет. Ида. Голенище. Мехико. Гавана. Рококо. Клипер. Нар.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Тыдзень не з простых. Цяпер, як паветра, вам патрэбна эмацыйная падзарадка, інакш да канца тыдня можна страціць усю жыццёвую энэргію. Лепшая крыніца для гэтага - каханне. Выдатныя адносіны з каханым чалавекам могуць падняць вас на грэбень поспеху. Тым больш, што поспех зусім побач, трэба толькі яшчэ трохі папрацаваць, што завецца, "на знос". Асноўная небяспека - выпадковая прастуда, якая можа сапсаваць важныя планы. Беражыце здароўе і не прастуджвайцеся. У канцы тыдня неабходна добра адпачыць.

**ЦЯЛЕЦ.** Зайздросная стрыманасць, якую вы праявіце, дапаможа вам перажыць не надта добры тыдзень. Цалкам верагодна, што іменна на вас гэты тыдзень не адабʼецца, бо вы ўмееце трымаць удар. З самага пачатку тыдня ўступаюць у сілу новыя правілы гульні, скарыстайцеся ўласнымі ведамі і рэпутацыяй чалавека, на якога можна палажыцца. Дайце магчымасць іншым выказацца, а самі абапірайцеся на факты. На працягу ўсяго тыдня павышана аварыйнасць, таму будзьце асцярожнымі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Калі жадаеце атрымаць поспех у нейкай справе, пачынайце збіраць інфармацыю, якая можа спатрэбіцца на будучае. Вучоба будзе карыснай не толькі студэнтам. Тыя, хто працуе,змогуць павялічыць сваё майстэрства, калі пойдуць на курсы павышэння кваліфікацыі. Зрэшты, калі вы не плануеце сядзець за партай, можна заняцца самаадукацыяй, зоркі гэта таксама вітаюць. Адзінае папярэджанне для новага тыдня: стрымлівайце эмоцыі, пераносьце негатыў у канструктыўнае рэчышча. У канцы тыдня актуальнымі будуць пакупкі для зімовага сезону.

**РАК.** Новы тыдзень абудзіць ў вас рамантычныя пачуцці, якія драмалі, а значыць, прыемныя моманты тыдня вы сустрэнеце з самым блізкім для вас чалавекам. І можна сказаць, што гэтыя моманты будуць ціхімі, спакойнымі і напоўненымі ўзаемнай сімпатыяй. Вам могуць надакучыць зносіны са староннімі людзьмі, і вы будзеце аддаваць перавагу баўленню часу ля каміна ці ў бары, за келіхам віна.

**ЛЕЎ.** Не варта асцерагацца кардынальна змяняць жыццё, бо ўсё, што ні робіцца, робіцца да лепшага. Хтосьці ўвесь час "варыцца" ў зменах, дык чаму не вы? У вас жа атрымліваецца ўладкоўваць уласнае жыццё? А гэта таксама своеасаблівыя змены! Не будзьце песімістам у каханні, яно вас яшчэ напаткае. Заставайцеся добрым эканамістам, і вас чакае поспех у бізнесе. Спортам трэба займацца ўсім, а вам трэба павялічыць нагрузку ўдвая.

**ПАННА.** На гэтым тыдні Паннам трэба ўспомніць сэнс вядомых выслоўяў пра сапраўдных сяброў. Вы акружаны рознымі людзьмі, але толькі выбраных можна назваць сапраўднымі сябрамі. Менавіта яны стануць вашай апорай і падтрымкай у надыходзячы перыяд. Менавіта з імі вы будзеце сустракаць самыя радасныя моманты восеньскіх дзён. І менавіта сябры стануць вашымі памагатымі ў тым выпадку, калі лёс падрыхтуе для вас якія-небудзь неспадзеўкі.

**ШАЛІ.** Тыдзень можа абуджаць не толькі станоўчыя эмоцыі. Надвор'е за акном выклікае меланхолію, зводзіць эмацыйнасць да дэпрэсіўнага ўспрымання свету. Цяжка пазбавіцца ад негатыва мінулага. Задача Шаляў - узнімаць сабе настрой любымі спосабамі, паколькі толькі на эмацыйным уздыме цяпер можна дамагчыся ўражлівых поспехаў. Абудзіце ў сабе імкненне да ўдасканалення, развівайце лепшыя якасці. Паспрабуйце не канцэнтравацца на эмоцыях, ацэньвайце сітуацыю, абапіраючыся толькі на факты. Шукайце ў любых праявах рэальнасці толькі станоўчыя моманты, не акцэнтуйцеся на негатыве.

**СКАРПІЁН.** Пачатак тыдня натхняльна падзейнічае на людзей творчых прафесій - з'явіцца імкненне да зносін, да творчага самавыяўлення. Зоркі забяспечаць вас магнетычнай прывабнасцю для процілеглай полу. Магчыма, завяжацца раман праз інтэрнэт. Ва ўсякім разе першая палова тыдня будзе актыўнай, насычанай нечаканымі падзеямі менавіта дзякуючы зносінам. Захапленні першай паловы тыдня плыўна перацякуць у спакойнае, мэтанакіраванае існаванне. Сувязі ўмацуюцца і стабілізуюцца.

**СТРАЛЕЦ.** Увесь новы тыдзень Стральцам проста неабходна больш часу ўдзяляць сабе, сваім захапленням і інтарэсам. Таксама карысна адшукаць у сабе ўтоеныя таленты і рэсурсы. Хіба вы можаце пахваліцца, што ведаеце сябе досыць добра? Што здольныя спрагназаваць рэакцыю ўласнага арганізма на тую ці іншую падзею? Не сядзіце між чатырох сцен, бо хто ж тады ўбачыць, якія вы таленавітыя і неардынарныя? Трохі эксцэнтрыкі - і вы на кані!

**КАЗЯРОГ.** На новым тыдні Казярогі схільныя ісці на паваду. Гэта няправільны шлях. Воля - гэта як раз тое, што патрэбна вам цяпер больш за ўсё. У вас выдатная логіка, і дзякуючы ёй можна развязаць любы вузел праблем. Атрымлівайце асалоду ад камфорту у працоўным офісе, адносіны з калегамі складаюцца на здзіўленне добра. Сямейныя праблемы, якія вісяць грузам на душы, тармозяць развіццё, таму варта глыбока прааналізаваць, адкінуць непатрэбнае, і перад вамі адкрыюцца вабныя гарызонты.

**ВАДАЛЕЙ.** У першай палове тыдня Вадалеі адчуюць заняпад сіл, таму ўсе справы ў гэтыя дні лепш за ўсё выконваць не спяшаючыся, удумліва. Месяц Скарпіёна абуджае ў вас эмацыйную ўспрымальнасць і залежнасць ад меркавання блізкіх вам людзей. У справах вы будзеце выяўляць нерашучасць, аднак у пачуццях – вельмі адвагу. Практычна ўвесь тыдзень вас будуць хваляваць сямейныя справы. Другая палова тыдня больш удалая. Пачынайце ўсё тое, пра што марылі, але не рашаліся дзейнічаць.

**РЫБЫ.** На новым тыдні Рыбкі змогуць змяніць сябе як знешне, так і ўнутрана. Звяртайце ўвагу на тое, якія прадукты трапляюць у ваш страўнік. Пачніце аздараўленне арганізма з разгрузачнага дня - "пасядзіце" на гародніне і садавіне, натуральным ёгурце. Любыя фізічныя нагрузкі таксама прынясуць шмат карысці. Паспрабуйце знайсці "свайго" трэнера, да якога вы будзеце хадзіць рэгулярна. Невялікія намаганні, прыкладзеныя вамі для паляпшэння здароўя і самаадчування, адразу ж адабʼюцца на вашай знешнасці.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 9 лістапада 2010 года ў 21.05

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова №



Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

